# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

Viestki j Paviedamlenni

Сусьветнае сеціва: e-krama.com, pahonia.com
Электронны адрас: viestki@mail.com
✉ P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 10 (584)
Кастрычнік 2014 г.


# Украіна ў агні і паняверцы

Гэты год, на які прыпала 100-годзьдзе Першай сусьветнай вайны і 75-годзьдзе Другой сусьветнай, стаў годам вайны ва Ўкраіне. Там, за парогам Беларусі, у самай братняй для беларусаў краіне, разгарнулася змаганьне паміж сіламі, што імкнуцца да свабоды і нармальнага заможнага жыцьця, і сіламі постсавецкай рэакцыі. Гэтая рэакцыя, пасеяная ў жыхарах усходу Ўкраіны расейскай прапагандай, скарыстаная Расеяй, якая на вачах ператвараецца ў таталітарную краіну, для апраўданьня агрэсіі. Назва “фашыст”, як і ў 1937 годзе, шчодра прыляпляецца палітычным апанэнтам, а таксама ўсім, хто супрацьстаіць расейска агрэсіі, не пагаджаецца з пуцінскай палітыкай “выпраўленьня гістарычнай несправядлівасьці”. Для Пуціна і ягонага атачэньня “несправядлівасьць” – гэта зьяўленьне незалежных краінаў з друзу савецкай імпэры. Таму кожны, хто выступае за незалежнасьць сваёй краіны – гэта “фашыст” для пуцінскай “трупаганды”.

Нажаль, у змаганьні супраць расейскай агрэсіі Ўкраіна застаецца фактычна сам-насам з мацнейшым, падрыхтаваным да вайны ворагам. Расейская прапаганда эфэктоўна паўплывала на заходніх палітыкаў і на тамтэйшыя масавыя сродкі, што часам надаюць болей увагі пошукам неіснуючага экстрэмізму “бендзераўцаў” і “Правага сэктару”, чым расейскай агрэсіі ды сьцякаючым крывёю Данеччыне й Луганшчыне. Не працьвярэзіла іх нават сьмерць сотняў людзей у зьбітым сэпаратыстамі малайскім авіялайнэры.

Сёньня, як Чэхаславаччыну ў 1938 годзе, Украіну здаюць агрэсару. Як і тады, Захад ня хоча выходзіць з камфортнай зоны, не ўспрымае сытуацыю сур’ёзна. Акурат як і ў часы Мюнхэнскіх дамоваў ніхто не схацеў “паміраць за Данцыг”, за землі, “пра якія мы нічога ня ведаем”. Як навучыла гісторыя, не схацеўшым “паміраць за Данцыг”, давялося паміраць за Парыж і Лёндан. Так і цяпер – хто ня хоча дапамагчы бараніць Славянск і Марыюпаль прыйдзецца, ня выключана, бараніць Бэрлін і Амстэрдам.

Змаганьне ва Ўкраіне – гэта цывілізацыйны раскол паміж сучаснай цывілізацыяй і ўсходнім дэспатызмам. Прычым на абодвух баках у асноўным – звычайныя людзі, што стаміліся ад дзесяцігодзьдзяў карупцыі, хлусьні й змарнаваных шанцаў. Але пры гэтым з аднаго боку расколу стаяць падбухтораныя Расеяй сілы рэакцыі ды савецкай фантомнай настальгіі, з другога – тыя, хто абраў сваім узорам панаваньне закону, годнае і заможнае жыцьцё ў сучаснай Эўропе.

*Заканчэньне на бачыне 3*




## Запрашаем на прэзэнтацыю літаратурнага альманаху “БЕЛАРУС”

за 2014 год

Імпрэза адбудзецца падчас кастрычніцкага сходу Згуртаваньня “Пагоня”, што пройдзе вечарам у суботу **25 кастрычніка 2014 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане. Пачатак а **6-й** гадзіне. *(Глядзіце абвестку на апошняй бачыне.)*

Удзельнікі прэзэнтацыі гэтага, ужо восьмага па ліку ад часу заснаваньня, нумару, змогуць сустрэцца і пагутарыць з аўтарамі і выдаўцамі альманаху, а таксама набыць нумар са значнаю зьніжкаю, што будзе дзейнічаць толькі падчас прэзэнтацыі. Запрашаем прыходзіць усіх зацікаўленых.

У сёлетнім нумары штогадовіка прадстаўленая творчасьць 21 беларускага літаратара, што жывуць у 9 краінах сьвету.

Не прапусьціце найгалоўнейшую культурную імпрэзу году!



# Верасьнёўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 20 верасьня, у Цэнтральным парку на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Стаяў цудоўны сонечны дзень, спакойнае надвор’е, пачатак амэрыканскай восені. Хоць колькасьць удзельнікаў была крыху меншая за папярэднія разы, але тым ня менш прысутныя з цікавасьцю слухалі выступоўцаў на сходзе.

Першым узяў слова сябар управы Згуртаваньня “Пагоня” Зьміцер Левіт. Ён прыцягнуў увагу да браку разуменьня патрэбы сваіх гістарычных канцэпцыяў у Беларусі, і да неабходнасьці стварэньня патрыятычнай і сапраўды навуковай гістарыяграфіі, якая ў скарочаным варыянце магла б быць дасяжная для ўсіх жыхароў Беларусі. Цяпер жа сытуацыя даходзіць да абсурду, калі, па выніках розных грамадзкіх апытаньняў, у нацыянальныя героі Беларусі залічаюць яе катаў і зьнішчальнікаў, як прыкладам, цара Пётра Першага і камуністычнага дыктатара Сталіна, або савецкая намэнклятура ў асобе Машэрава. Гэта аддюстроўвае жахлівы стан сыстэмы гістарычнага навучаньня ў школах, а таксама непадзельнае панаваньне расейскіх масавых сродкаў у Беларусі. Тым ня менш, нават калі б утварылася мажлівасьць свабодна выкладаць гісторыю Беларусі – цяпер, проста, няма выпрацаваных і гатовых да ўжытку патрыятычных канцэпцыяў гісторыі. І менавіта на гэта трэба скіроўваць увагу ўсім нацыянальным сілам, бо, як вядома, народ, які ня ведае сваёй гісторыі, ня зможа збудаваць сабе лепшую будучыню.

Затым перад прысутнымі выступіў госьць са Швэцыі, дацэнт Стакгольмскага ўнівэрсытэту Андрэй Катлярчук. Ён прывітаў прысутных і падкрэсьліў, што надзвычай прыемна тут, далёка ад Беларусі, пабачыць і пачуць землякоў, і падзякаваў сп. Левіту за гасьціннасьць і дапамогу падчас побыту ў Нью-Ёрку. Сп. Катлярчук распавёў пра свае ўражаньні ад Нью-Ёрку і ад Злучаных Штатаў, а таксама ад сталіцы – Вашынгтону, куды ён прыехаў на навуковую канфэрэнцыю. Сп. Катлярчук народжаны ў Расеі, у сям’і вайскоўца родам з Турава. Служыў у савецкім войску, быў у ахове М. Гарбачова. Зацікавіўся гісторыяй, атрымаў вышэйшую гістарычную адукацыю і стаў займацца тэмай беларускіх пратэстантаў у XVII-м ст., і праз гэта выйшаў на беларуска-швэдзкія дачыненьні, напісаў шэраг артыкулаў і кнігаў па гістарычных сувязях паміж Швэцыяй і Беларусьсю. З 2000 году жыве ў Швэцыі, атрымаў ступень доктара гістарычных навук. Сп. Катлярчук быў адзін час карэспандэнтам “Нашай Нівы” ў Швэцыі. Прамоўца распавёў пра свае досьледы й зацікаўленьні, якія выявіліся надзвычай шырокімі, і ўключаюць таксама лёсы швэдаў-каляністаў ва Ўкраіне ў савецкія часы, беларускую прысутнасьць на Браншчыне, Кейданскую вунію Вялікага Княства Літоўскага і Швэцыі, генацыд цыганоў падчас Другой сусьветнай вайны.



Затым сп. Катлярчук распавёў пра беларускую грамаду Швэцыі, пра яе гісторыю, пачынаючы з больш-менш значнага прытоку беларускіх эміґрантаў адразу пасьля вайны. Сёньня ў Швэцыі даволі шмат маладых беларусаў, але дзеля старой бяды – браку нацыянальнай сьведамасьці, а таксама дзеля разнастайных жыцьцёвых прычынаў, удзел у беларускіх арганізацыях і ўзровень грамадзкай актыўнасьці застаюцца невысокімі. Тым ня менш у Стакгольме рэгулярна праходзяць сустрэчы беларусаў Швэцыі, і на іх прыходзяць новыя і новыя людзі. Арганізацыя адкрытая для ўсіх беларусаў, але мусілі пазбавіцца ад асобаў, што імкнуліся праводзіць дэструктыўную дзейнасьць. Часам узьнікаюць непаразуменьні ў дачыненьні да асобаў зь нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыяй – людзі, якія маюць сем’і ды прыходзяць зь дзецьмі, часта лічаць немагчымым наведваць сходы, калі туды таксама прыходзяць геі.

Сп. Андрэй Катлярчук таксама спыніўся на аналізе агульных тэндэнцыяў іміграцыі ў Швэцыі, адзначыў, што буйныя гарады маюць вялікі працэнт прыбышоў. Сярод іх шмат палякаў, югаславаў, прадстаўнікоў Блізкага Ўсходу, з былога Савецкага Саюзу. Палякі досыць моцныя лічэбна, але імкнуцца жыць разам у адносна ізаляваных умовах, не бяручы актыўнага ўдзелу ў палітычным і культурніцкім жыцьці Швэцыі і, адпаведна, маюць уплыў значна меншы за свой патэнцыял. Пра іншыя этнічныя групы гаварыць яшчэ можа і рана, але яны выяўляюць цікавасьць да пашырэньня ўплываў, асабліва прадстаўнікі ісламскай грамады.

Выступ быў з увагай выслуханы прысутнымі, сп. А. Катлярчук адказаў на шматлікія пытаньні.

Затым сябры і госьці арганізацыі мелі нагоду працягнуць калегаваньне пры шклянцы віна і сьціплых пачастунках на прыродзе.

**Віталь ЗАЙКА**

# Рускі фашызм - пагроза сьвету

Гісторыя зьяўленьня фашызму паўтараецца да дробязяў. У Расеі аднаўленьне і фармаваньне фашысцкай сыстэмы ідзе па апрабаванай (клясычнай) схеме. Там ў наяўнасьці ўжо ўсе родавыя прыкметы фашызму: маргіналізм ідэалёгіі, ушчымленая мэнтальнасьць абыватэляў, агрэсіўнасьць, імпэрскія мэты, дэкляраццы аб ратаваньні і пераробцы чалавецтва, стаўка на сілу, салідарызацыя на нянавісьці да навакольнага сьвету і ўсіх народаў, адмаўленьне ад свабоды, месіянскае ўспрыняцьце сваёй імпэрскай выключнасьці, геапалітычная палітыка агрэсіі і вайны за перадзел сьвету.

Напад на Ўкраіну, анэксія Крыму, захоп Данбасу азначае пачатак новай актыўнай фазы фашызму ў Расеі. Паламаны міжнародны парадак бясьпекі, які трываў дагэтуль. Расея адкрыта выяўляе варожасьць да сыстэмы Заходняга сьвету. Агучвае мэты барацьбы зь ім аж да ўжываньня атамнай зброі. Расейская агрэсія мае зьмест і набывае формы цывілізацыйнай вайны.

У камуна-фашысцкіх сыстэмах цэнтральную ролю, якая вызначае палітыку, мае ідэалёгія. Ідэалёгіяй цяперашняга фашысцкага рэжыму ў Расеі ёсьць канцэпцыя "Русский мир" (рускі сьвет). Згодна з гэтай канцэпцыяй "русский мир" ёсьць ўсюды, дзе гучыць расейская мова. Адпаведна, Расея прад'яўляе правa на гэтае месца і тэрыторыю.

Такая ідэалёгія натуральна вырасла з усёй папярэдняй расейскай імпэрскай палітыкі. У цяперашнім выглядзе яна пачала фармавацца яшчэ ў 90-х гадох ў асяродзьдзі КГБ і праваслаўнага аддзелу КГБ (Рускай Праваслаўнай Царквы).

Ідэалёгія "Русский мир" спэцыяльна створана пад магчымасьць апраўданьня расейскай агрэсіі ў любым месцы сьвету, дзе ёсьць асяродзьдзе, што гаворыць па-расейску (незалежна ад этнічнага паходжаньня). Зьмест ідэалёгіі і тэхналёгія агрэсіі тыпова расейскія. Ствараецца прапагандысцкі міт аб уціску расейскай мовы (альбо "рускіх") у якім-небудзь месцы Эўропы (сьвету), і гэта, быццам бы, дае права Крамлю ўвесьці туды войска дзеля, нібыта, "абароны" "русского мира". Фашысты зрабілі расейскую мову галоўным чыньнікам агрэсіі і акупацыі тэрыторыяў. Мяркую, то высновы з гэтага вольныя народы зробяць непасрэдныя і канкрэтныя. "Русский мир" больш ня пройдзе, пятай калёны ня будзе.

Зафіксавана ў інфармацыі і ў парлямэнцкіх дакумэнтах, што ў першай палове 90-х сыстэматычныя кантакты з расейскімі фашыстамі меў дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Аляксандар Лукашэнка. Ён неаднаразова езьдзіў у Маскву ў расейскую Думу, у ФСБ і прыняў пазыцыю "русского мира" як ідэалёгію ўлады. Масква, ФСБ і КГБ забясьпечылі яму апэратыўную падтрымку на прэзыдэнцкіх выбарах у 1994 годзе.

Пасьля прыходу Лукашэнкі да ўлады ідэалёгія "русский мир" стала афіцыйнай палітыкай прамаскоўскай улады ў Беларусі і галоўным ідэалягічным чыньнікам унутраннай акупацыі краіны. За кароткі час былі ліквідаваныя нацыянальныя законы, беларуская Канстытуцыя 1994 году, зачыненыя беларускія школы, беларускае радыё і тэлебачаньне, беларускія кнігавыдавецтвы і часапісы, распачата жорсткая рэпрэсіўная палітыка супраць усяго беларускага і адначасна паўсюднае насаджэньне расейскай мовы, нахабна, з нахрапам і зьнявагай беларусаў.

Палітыка вынішчэньня ўсяго беларускага і насаджэньне "русского мира" працягваецца ўжо 20 гадоў. Вынікі жахлівыя. Заадно са зьнішчэньнем беларускай мовы і засільлем расейскага "языка" адбывалася абсаджэньне расейскімі кадрамі, службістамі і шпіёнамі асноўных дзяржаўных пасадаў у краіне. Дваццаць гадоў ідзе непрыкрытая рэпрэсіўная падрыхтоўка да анэксіі Беларусі. Галоўным выканаўцам гэтай палітыкі і галоўным злачынцам перад нацыяй зьяўляецца Аляксандар Лукашэнка. Шкоду для Беларускай нацыі, якую ён ужо пасьпеў зрабіць, немагчыма ні з чым параўнаць. Не было ў гісторыі Беларусі большага злачынцы перад нацыяй і краінай, чым гэтая адыёзная фігура, што засела на вяршыні ненароднай улады.

Пакараньне такой фігуры непазьбежнае, як непазьбежным павінна стацца адраджэньне Беларусі, і зьяўленьне супраціву палітыцы расейскага фашызму.

На сёньняшні дзень, калі фашысцкая Расея адкрыта ступіла на шлях разьвязваньня вялікай вайны за перадзел сьвету, абапіраючыся на ксэнафобію і русізм, кожнаму беларусу трэба задумацца пра галоўнае – пра важнасьць сваёй роднай беларускай мовы і культуры ў справе захаваньня нашай дзяржавы, незалежнасьці і свабоды. Беларуская мова і культура – гэта аснова нашага нацыянальнага існаваньня і галоўная зброя нашай свабоды.

Супраць расейскага фашызму кожны народ мае найперш магутную абарону ў сваёй мове і культуры. І толькі потым уступае ў рахунак войска і вайсковая зброя.

Мы, беларусы, мусім рыхтавацца да вайны з маскоўскім фашызмам па галоўных накірунках абароны: умацоўваць і пашыраць нашую беларускую мову і культуру і рыхтавацца да збройнага адпору крамлёўскаму ворагу.

Халодная вайна супраць існаваньня незалежнай Беларусі вядзецца ўжо дваццаць гадоў. Але цяпер, калі Масква напала на Ўкраіну, расейская агрэсія наблізілася да нашых сьцен. Зброя супраціву павінна быць у нашых руках.

Слава Айчыне! Жыве Беларусь!

**Зянон ПАЗЬНЯК**

*20 верасьня 2014 г.*

---

***Заканчэньне зь першай бачыны***

Гэты цывілізацыйны раскол праходзіць таксама і празь Беларусь. На абодвух баках канфлікту ва Ўкраіне ваююць беларускія дабраахвотнікі, у сеціве і нават на вуліцах беларускіх гарадоў спрачаюцца прыхільнікі адзінай Украіны і прыхількі прарасейскіх сэпаратыстаў. Ня выключана, што агонь вайны перанясецца і ў Беларусь. Лукашэнка замітусіўся – крымскі сцэнар выглядае надзвычай рэалістычна. І вось забароненыя георгіеўскія "калярадзкія" стужкі, уведзеная ахова мяжы з Расеяй. Але поруч з гэтым – рэпрэсіі супраць тых, хто падтрымлівае Ўкраіну. Працягваецца ўціск апазыцыі, антынацыянальная палітыка русыфікацыі. Дыктатара турбуе толькі захаваньне сваёй улады. Аднак рэтарычнае поўзаньне на каленях у Маскву, заціісканьне беларускага нацыяналізму, дазвол на абсалютнае панаваньне ў Беларусі расейскіх масмэдыяў прывяло да таго, што Лукашэнкава ўлада пад пагрозай – і не з таго боку, адкуль ён чакаў. Беларускія, адно толькі па назве, войска і міліцыя ў выпадку агрэсіі самавольна пяройдуць на расейскі бок, на вышэйшыя аклады – так ужо адбылося з украінскімі, толькі па назве, войскам і міліцыяй у Крыме. Але ці ж ня сам Лукашэнка гадамі дзяўбаў у галаву, што "беларусы і расейцы – адзін народ", "беларус – гэта расеец, толькі са знакам якасьці".

Відавочна, што Пуцін не зьбіраецца спыніцца на захопе Крыму і ўсходняй Украіны. Пачаліся правакацыі супраць балтыйскіх краінаў, бачучы млявую і неадэкватную ракцыю Захаду і НАТО. Пуцін пахваліўся, што за два дні можа захапіць шэраг эўрапэйскіх сталіцаў. Няма сумніву, што ён ужо лічыць Беларусь амаль у сваёй кішэні. Таму ўсім беларусам трэба яднацца, каб супрацьстаяць патэнцыйнай прамой агрэсіі. Трэба цяпер актыўна падтрымліваць Украіну, краіны Балтыі. Аб'яднаныя сілы на абшарах былога Вялікага Княства Літоўскага маглі б спыніць расейскую агрэсію, прагу новай сусьветнай вайны.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Разлучаныя Штаты Амэрыкі

Прыхільнікі „новага парадку” ніяк ня могуць зразумець, чаму гэта на пачатку XXI стагодзьдзя яшчэ ня толькі працягваюць сваё ўпартае існаваньне старыя, нацыянальныя дзяржавы, але імкнуцца атрымаць незалежнасьць усё новыя і новыя. Шкотам (шатляндцам), праўда, з прычыны на права голасу для чужаземцаў не хапіла некалькіх адсоткаў, у каталёнцаў, відавочна, атрымаецца, нягледзячы на вялікі ціск з боку гішпанцаў і пагрозы брусэльскіх камісараў, а за імі наступныя ў чарзе ўжо чакаюць валійцы, баскі, флямандцы і многія-многія іншыя. Што за анахранізм гісторыі – чухаючы свае лысыя “рэпы”, думаюць прапагандысты „новага чалавека” – гомасавецікусы, эўрасавецікусы і іншыя заўзятары кагальна-інтэрнатнага ладу існаваньня. А чалавек, як імкнуўся жыць на сваім і сярод сваіх, так і імкнецца. Нашчадкі бальшавікоў спадзяваліся, што, можа, калі заняць чалавека смартфонамі, падсадзіць на гамбургеры з кока-колаю і паказаць яму па тэлевізару Мадону, то ён забудзецца на ўсё, у тым ліку і зь якога ён роду. Нічога падобнага.




Шмат хто баіцца балканізацыі Эўропы, адначасна чакаючы і жадаючы яе Расеі, але хто б ужо мог падумаць, што пра незалежнасьць задумаюцца паасобныя штаты Амэрыкі. Паводле аднаго сьвежага апытаньня амаль кожны чацьвёрты жыхар ЗША хоча, каб ягоны штат адлучыўся ад уніі. Рашучае „не” такой ідэі сказала ўсяго толькі 53% апытаных. Прыхільнікі сэцэсіі стаміліся ад катастрафічных для будучыні амэрыканскай эканомікі рэформаў Абамы. Яблыкам разладу сталася ўвядзеньне новай сыстэмы аховы здароў’я, але ж кожны разумее, што гэта ўсяго толькі зачэпка. Нездарма штаты паўставалі як „краіны”, а ня вобласьці, а каму наканавана лётаць, той поўзаць ня будзе. Надта ж ужо розныя па сваім сьветаўспрыманьні тыя абыватэлі Луізыяны і Мантана, не згадваючы ўжо пра тэхасцаў. Дарэчы, у Тэхасу і Гаваяў магчымасьць аддзяленьня ад ЗША самая вялікая, бо гэтыя штаты былі прызнаныя незалежнымі яшчэ перад далучэньнем да ўніі.

Хоць магчымасьць адлучэньня фармальна ані не дазволеная, ані не забароненая правам, але вядома, што ўсялякія рэальныя спробы былі б, прынамсі на сёньня, вынішчаныя на пні, а магчыма нават на корні. Як ня дзіўна, такой магчымасьці ня маюць таксама фармальна незалежныя „злучаныя штаты эўропы”. Аднабаковае адасабленьне ад ўніі не прапісанае, проста і звычайна не прадугледжанае правам. Тэарэтычна, як калісьці ў СССР, такая магчымасьць ёсьць, але практычна гэта пакуль атрымалася толькі ў малазначнай, пакрытай лёдам Грэнляндыі, і то ў далёкім 1985-м, калі Эўразьвяз яшчэ не быў тым, чым ён стаў у выніку...

І хоць імпэрыялісты кажуць, што будаваньне імпэрыяў – гэта адзіная магчымасьць выжываньня ва ўмовах глябалізацыі, ды часьцяком яны забываюцца, што ўсе імпэрыі паўставалі на глебе моцных, дамінуючых нацыянальных ці пратанацыянальных дзяржаваў. Канкурэнцыя стварае і рухае наперад, ураўненьне зьнішчае і вядзе да дэградацыі. А уніі могуць быць моцныя толькі пры ўмове, што створаныя на глебе агульных вартасьцяў. На глебе антывартасьцяў, канечне, аб’яднацца таксама магчыма, але як паказвае практыка, не на вельмі працяглы час.

Тэндэнцыі на старым кантынэнце відавочныя, а што будзе з Амэрыкай яшчэ пакажа час. Калі не балканізацыя, то карэізацыя, з паглыбленьнем і радыкалізацыяй падзелу краіны паводле палітычных поглядаў, цалкам верагодная. Народы Юты, Ваёмінгу і Нэвады – злучайцеся!

***Віталь ВОРАНАЎ***

Кіраўніцтва і сябры ***Згуртаваньня “Пагоня”*** выказваюць шчырае спачуваньне нашай сяброўцы **Алене РЫЖАЙ** у сувязі з заўчаснай сьмерцю маці ў Менску.

**Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðààíü³:**

**С. Багданава .................60**
**В. Бітус .......................60**
**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Viktar Yedzinovich.*

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **25 кастрычніка 2014 году** на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі* ***L, N, Q, R, W, 4, 5, 6*** *да прыпынка* ***Union Square****. Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад* ***Union Square*** *па* ***15-й вуліцы*** *на скрыжаваньні з* ***Irving Place****.*

***Заля на другім паверсе.***
Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку* ***pahonia.com***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**Д. Суганяка ..................30**
**Шчыры дзякуй!**

*Паважаныя* ***Т. Асташка А. Ахмяненка, В. Мытнік і А. Чаравач,*** *калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (****$30****) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі з адзнакаю* ***“Весткі”*** *выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”* ***Viktar Yedzinovich****.*

*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы ў інтэрнэце старонку* ***www.e-krama.com***